2 Па вуліцы Гагарына можна толькі лётаць
4 Сенсационное сообщение
11 Зменены расклад руху гарадскога транспарту



# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.



№20 (153). 11 — 17 траўня 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 70 руб.

## Трактар Жыровіцкаму манастыру

**Нядаўна Жыровіцкі манастыр стаў уладальнікам новага трактара МТЗ-920.**

Такі падарунак манастыру і духоўнай семінарыі зрабілі мінскія трактарабудаўнікі, каб падтрымаць жыццядзейнасць манастырскай гаспадаркі.

На сённяшні дзень у манастыры і семінарыі жывуць больш за 500 чалавек. Ва ўладанні манастыра знаходзіцца 154 гектары зямлі, на якіх вырошчваюць бульбу, буракі, збожжавыя, гародніну. Па словах манастырскага эканома айца Авеля, ураджайнасць на іхніх землях прыкладна такая ж, як і ў калгасах раёна. Гэта пры тым, што ў гэтыя землі не ўносяцца хімічныя ўгнаенні — толькі арганіка. Свае палеткі манахі, у асноўным, апрацоўваюць уручную. Прынамсі, так было да гэтага года. Цяпер, з магутным МТЗ-920, працаваць на зямлі будзе лягчэй. А свае механізатары ў манастыры ёсць.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## У Зэльве не хапае стаматолагаў

**У Зэльве няма стаматолага-хірурга.**

На пытанне, калі ён з'явіцца, галоўны ўрач Зэльвенскага ТМА Андрэй Фрэйберг адказаў, што "дзесьці праз год". Патлумачыў гэта тым, што на Гродзеншчыне не хапае дзесьці кала 60-ці стаматолагаў. Цікава, што сёлета ніводзін выпускнік зэльвенскіх школ не пажадаў пайсці вучыцца на зубнога доктара, хаця для паступлення мясцовае ТМА дае мэтавае накіраванне. Прычына — нізкія заробкі медыкаў (у сярэднім 22-25 тысяч рублёў).

## Вакансій болей, чым беспрацоўных

**У Зэльвенскім цэнтры занятасці насельніцтва па стану на 1 траўня зарэгістраваны 201 беспрацоўны.**

Працоўных вакансій на гэты час было 212. З іх 88% — рабочыя месцы і 12% складаюць вакантныя пасады інжынерна-тэхнічных работнікаў. На вучобу па рабочых спецыяльнасцях цэнтрам занятасці накіраваны 32 чалавекі.

Сярэдняя дапамога па беспрацоўю складае 1993 рублі.

**Алесь САСНА**

## У Маскву на свята

**Ветэраны 348-й стралковай Бабруйскай Чырвонасцяжнай дывізіі, якая ў гады вайны сярод іншых вайсковых частак вызваляла Мастоўшчыну, запрасілі на святкаванне 55-й гадавіны перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне ў Маскву прадстаўнікоў Мастоўскага раёна.**

Паехалі ў сталіцу Расіі вучні трэцяй гарадской і Луненскай сярэдніх школ. Яны знаходзіліся там з 5 па 10 траўня.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Возможности бюджета ограничены

**Незначительное увеличение минимальной заработной платы связано с ограниченными возможностями государственного бюджета. Об этом сообщил БелаПАН источник в белорусском правительстве.**

Как известно, с 1 мая минимальная заработная плата увеличилась с 2.200 до 2.600 рублей, или на 18,2 процента, а тарифная ставка первого разряда — с 4.500 до 5.200 рублей, или на 15,6 процента. Вместе с тем рост потребительских цен с начала года (предыдущее повышение МЗП произошло 1 января) составил примерно 40 процентов. Ранее рост минимальной зарплаты обычно компенсировал рост цен.

По словам источника, вокруг нынешнего повышения МЗП в министерствах и ведомствах разгорелись жаркие дискуссии. Именно поэтому до последнего момента не был известен размер ее увеличения. Кроме того, пока так и не решен вопрос об изменении системы оплаты труда в бюджетной сфере, налогообложения и иных видов платежей. Вопрос об этом был поднят в правительстве еще зимой.

**БелаПАН**

# 9 ТРАЎНЯ — 55-я ГАДАВІНА З ДНЯ ПЕРАМОГІ



**З гэтай нагоды ў Слоніме ў цэнтры горада, каля помніка загінуўшым воінам у Другой сусветнай вайне, адбыўся мітынг.**

Грамадскасць райцэнтра ўсклала кветкі і аддала даніну павагі героям мінулай маўчання. Затым у гарадскім парку прайшлі масавыя гулянні. Нумары мастацкай самадзейнасці паказалі мясцовыя таленавітыя калектывы. Аматары вальса танчылі пад гукі вайсковага аркестра. Народ адпачываў. А ўвечары, у 21 гадзіну, у мікрараёне "Энка" быў дадзены святочны салют.

**Віталь ГІЛЬ**

## Производственный травматизм

**На Гродненщине растет производственный травматизм. С начала года в результате несчастных случаев на производстве погибли 8 и получили тяжелые травмы 28 человек. За прошлый год погибли 26 человек и 76 были травмированы.**

Самым тяжелым остается травматизм в агропромышленном комплексе. В этом году на предприятиях и в хозяйствах Минсельхозпрода погибли уже 4 человека. Причем один погиб в период весенне-полевых работ, еще трое тяжело травмированы. Основными причинами несчастных случаев являются неудовлетворительная организация работ, халатное отношение должностных лиц к выполнению обязанностей по охране труда, пьянство на производстве. За три месяца по материалам государственных инспекторов труда 316 должностных лиц привлечены к дисциплинарной, 283 — к административной ответственности.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## Бензин снова подорожал

**В Беларуси в очередной раз повышаются цены на нефтепродукты.**

Цены повышаются в среднем на 10–12 процентов. Так, стоимость автобензина А-76 составит 222 рубля за литр, бензина АИ-92 — 348 рублей, АИ-95 — 410, дизельного топлива — 209 рублей за литр. Цена нефтепродуктов через АЗС на автомагистрали "Брест — Москва" составит соответственно: А-76 — 222 рубля, АИ-92 — 352 рубля, АИ-95 — 415 рублей, дизельного топлива — 209 рублей.

Кроме того, с 4 мая отменяется реализация нефтепродуктов по сниженным ценам для сельхозпотребителей, которая действовала с 13 апреля.

**БелаПАН**

ЗДАРЭННІ

## Фуфайкі ім і не хапала

**З 6 на 7 траўня ў вёсцы Клепачы Слонімскага раёна быў абрабаваны магазін.**

Саўдзельнікі крадзяжу выяўлены і затрыманы. Усе яны жыхары Слоніма. Хлопцы, якім трохі больш за 20 гадоў, вынеслі з сельскай крамы гарэлку, кансервы, жуйку, пару тапак, адну фуфайку і некалькі параў спартыўных штаноў. Яны прыхапілі тавару на агульную суму 200 тысяч рублёў.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Пажар уначы

**Глыбокай ноччу ў вёсцы Труханавічы Дзятлаўскага раёна адбыўся пажар.**

Агнём знішчана памяшканне канюшні, якое належыць мясцоваму калгасу "Зара". Згарэлі і двое коней. Прычына пажару высвятляецца.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК

*Цены в руб. за 1 кг.*

| | 02.04.00 | 07.05.00 |
|---|---|---|
| лимоны | 1000 | 1000 |
| апельсины | 700 | 650 |
| свинина | 1000-1800 | 2500 |
| молоко | 100 | 100 |
| сметана | 500 | 400 |
| масло сл. | 1400 | 1400 |
| масло растит. | 600 | 650 |
| яйца (1 дес.) | 400 | 400 |
| бананы | 800 | 650-1000 |
| мандарины | 1000 | 1000 |
| яблоки свежие | 400 | 450 |
| лук | 180 | 200 |
| говядина | 900-1700 | 900-1000 |

## БЛАГОТВОРИТЕЛЬНЫЙ КОНЦЕРТ

**На прошлой неделе в Слонимском РДК состоялся благотворительный концерт, организованный городским советом женщин совместно с детской музыкальной школой.**

В концерте принимали участие хор «Камерата» под руководством Натальи Куклицкой, танцевальный коллектив под руководством Жанны Гундарь, а также танцевальный ансамбль Ирины Зенько и театр спортивного танца Зои Петровской.

Программа была довольно насыщенной и разнообразной, а аплодисменты и теплая атмосфера в зале свидетельствовали об удачном выступлении артистов. Интерес зрителей к происходящему на сцене повышался с каждым номером программы, благодаря как артистичности выступающих, так и оригинальной манере ведущей Марины Шимчик.

Было распространено около 1000 билетов, и каждый, кто приобрел их, одновременно оказал помощь детям-сиротам из деревни Сосновка, поскольку деньги, вырученные от концерта, были направлены в этот детский приют.

**Антонина СНЫТКОВА, ученица СШ №6 г.Слонима**

## ДЗЕНЬ ПАМІНАННЯ ПРОДКАЎ

**Сёлета на 9 траўня прыпадае не толькі Дзень Перамогі, але і Радаўніца.**



Фота Віталя ГІЛЯ

Аднак слонімцы адзначылі Радаўніцу (веснавыя Дзяды) яшчэ ў нядзелю. У гэты дзень многія наведалі гарадскія могілкі, каб ушанаваць памяць сваіх продкаў, прыбраць іх магілы. З гэтай нагоды адбыліся адмысловыя паніхіды па памерлых.

Такая паніхіда прайшла на альбярцінскіх могілках. Яе адслужылі айцы Аляксандр і Анатоль, якія таксама асвяцілі магілы (на здымку). Святары ўзгадалі імёны землякоў, прах якіх тут пакоіцца, найперш ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.

## ПА ВУЛІЦЫ ГАГАРЫНА МОЖНА ТОЛЬКІ ЛЁТАЦЬ

На днях стаю на прыпынку "Іса", што ў Альбярціне. Спыняецца машына сябра.

— Сядай, падкіну да цэнтра горада, — прапанаваў ён.

Едзем па вуліцы Гагарына.

— А ты ведаеш, чаму гэта вуліца носіць імя першага савецкага касманаўта? — запытаўся ён у мяне.

— Не, — адказаў я.

— Таму, што па ёй ездзіць немагчыма, можна толькі лётаць, — сказаў сябра.

Сапраўды, вуліца Гагарына ў Слоніме уся ў выбоінах і ямах. Дзіву даешся, як па ёй сёння ездзяць гарадскія аўтобусы, машыны хуткай дапамогі. І нікому да гэтай вуліцы няма справы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Па-украінску

**У Брэсце выйшаў з друку паэтычны зборнік на ўкраінскай мове "Сторінки хвиль".**

Сюды ўвашлі вершы беларускіх паэтаў, якія пераклаў Антон Цвыд. Сярод аўтараў ёсць у зборніку і вершы нашых землякоў Гальяша Леўчыка і Анатоля Іверса.

### Аляксей Якімовіч — лаўрэат конкурсу

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь падвяло вынікі конкурсу беларускіх п'ес для тэатраў, які называўся "Дыялогі вякоў".**

Наш зямляк Аляксей Якімовіч атрымаў заахвочвальную прэмію за п'есу-казку "Пудзіла".

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Плата за суботнік

**Аддзел адукацыі Мастоўскага райвыканкама вызначыў памеры грашовых спагнанняў для настаўнікаў у фонд суботніку.**

Напрыклад, калектыў Пілкоўскай школы павінен пералічыць на спецрахунак райвыканкама 10 тысяч рублёў, гэта ў сярэднім 870 рублёў з чалавека. Роўна на такую суму настаўнікам недадалі аванс.

### Ёсць такая статыстыка

**Згодна са статыстыкай, штогод у Расіі мужчыны забіваюць 14 тысяч жанчын і яшчэ 600 тысяч калечаць.**

Калі ім упадабаюцца беларускія жанчыны, то за 5 гадоў у Беларусі не застанецца ніводнай здаровай кабеты.

### Непапраўныя страты

**Замаразкі, што былі на мінулым тыдні, нанеслі калгасам і саўгасам Мастоўшчыны вялікія страты, якія, дарэчы, спецыялісты раённага райаграпрамхарчу яшчэ не вызначылі.**

У шэрагу гаспадарак раёна азімыя пажаўцелі на 90% пасяўных плошчаў.

### Стадыён ці парк?

**Некалькі гадоў таму назад у Мастах у новым мікрараёне паміж праспектам Юнацтва і вуліцай Я.Коласа быў разбіты парк.**

А гэтаю вясною пасярэдзіне парка бульдозерам была выраўненая пляцоўка, выкарчаваны дрэвы і неўзабаве з'явілася невялікая футбольная пляцоўка, а побач — вялізная куча пяску. Зараз нельга зразумець, што там мецца быць, ці міністадыён, ці парк? Бо ні тое, ні другое не даведзена да ладу.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## ПРЫЗНАЧЭННІ

Загадам начальніка Упраўлення генерал-маёра міліцыі Белашэўскага прызначаны:

— п/п-к міл. Андрыеўскі Віктар Уладзіміравіч — начальнікам ДАІ Слонімскага ГРАУС;

— м-р міл. Бахорын Генадзь Аляксандравіч — намеснікам начальніка Зэльвенскага ГРАУС;

— м-р міл. Шостак Сяргей Фёдаравіч — першым намеснікам начальніка Дзятлаўскага ГРАУС, начальнікам крымінальнай міліцыі.

Віншуем!

## УДАКЛАДНЕННЕ

У №19 "Газеты Слонімскай" была змешчана заметка "Водителям презервативы не нужны", дзе паведамлялася, што супрацоўнікі ДАІ не маюць права патрабаваць у аўтамабілістаў наяўнасць прэзерватываў у аптэчцы.

У заметцы ўзгадвалася, што "з падобнай праблемай сутыкнуліся аўтааматары Слоніма". Аднак, як паведаміў начальнік Слонімскага ДАІ падпалкоўнік міліцыі Віктар Андрыеўскі, узгаданых фактаў на Слонімшчыне зафіксавана не было.

на жыццёвых

# НА ЗАЙЦАВЫМ

Хата старога Мікадыма, уласна кажучы, і не стаяла на хутары. Проста на водшыбе, метраў за трыста ад вёскі выглядаў з-за высокага плоту яго дагледжаны дом са шматлікімі хаткамі-вуллямі. Месца гэта хутчэй можна было назваць пчаліным, чым зайцавым, бо летам тут насіліся шматлікія раі. Але ў далёкія гады, калі Мікадым яшчэ быў поўны сіл і здароўя, яго маладзенькі сад у адну халодную зімовую ноч наведалі зайцы. Можа і не раз яны там паласаваліся, але калі аднойчы гаспадар агледзеў на снезе плямкі слядоў, уважлівым позіркам перабраў кожнае дрэўца, то ўбачыў, што ледзь-ледзь не палавіна яблынек напсавана ўшчэнт. Пабедаваў ён і пасадзіў новыя дрэўцы, а гэта месца з нечай лёгкай рукі пачалі зваць Зайцавым хутарам. Дык на гэты самы хутар хмурым кастрычніцкім надвячоркам спяшалася старая Марыля. Яна выйшла з аўтобуса на шашы, што пралягала ля вёскі, і цяпер шыбавала ледзь не подбегам. Сагнутая ў кручок постаць кабеты, акрытая вялікай цёмнай хусткай, нагадвала таямнічую птушку з дзіцячай казкі. А спяшацца было чаго. Учора пасля палудня нехта пазваніў у сельсавет і папрасіў, каб перадалі Марылі, што яшчэ тыдзень назад прапаў яе родны брат Мікадым. Пайшоў у лес па грыбы і не вярнуўся. Пачуўшы гэту страшную вестку, кабета адразу пачала збірацца ў дарогу. Шлях быў няблізкі. Трэба пешшу дабірацца пяць кіламетраў да аўтобуса, потым дзве гадзіны ехаць, бо жыў брат у другім раёне. І яна адтуль родам, але некалі, адразу пасля вайны, пайшла замуж у чужую старонку. Там і сына выгадавала, у людзі вывела, там і аўдавела. Цяпер дажывала век адна ў старой хацінцы.

Мікадым быў крыху старэйшы за яе. Ён ажаніўся яшчэ перад вайной. Дзетак з жонкай не нажылі, а ў час ліхалецця і яна, бедная, загінула. Так і дажыў Мікадым адзін да старасці, клапоцячыся пра пчолы і агарод. Прынамсі, з іх ён і карміўся, мала спадзеючыся на калгасныя заробкі, хоць на полі працаваў спраўна.

І вось калі Мікадыму пераваліла ўжо на восьмы дзесятак, вырашыў ажаніцца. Вестка гэта звалілася на Марылю як камень на галаву. Аднойчы абірала яна бульбу на вячэру. Хоць на кухеньцы стаяў прыцемак, святла не запальвала. Раптам чуе, нехта шкрабаецца ў сенцах, нібы клямку шукае.

— Хтосьці далёкі, не сусед, бо доўга не можа нашчупаць, — пранеслася ў галаве думка. Яна ўжо ўстала з зэдлічка і хацела пайсці адчыніць, як дзверы рыпнулі і парог пераступіў брат.

— Здарова! — гучна і неяк весела прывітаўся ён. — Не пазнала, ці што, што гэтак утаропілася?

— Цяпер пазнала, — узрадавалася яна дарагому госцю. — Нешта ж сярод тыдня завітаў. Мабыць патрэба якая?

— Дай хоць распрануцца, а то адразу пытаннямі закідала.

Мікадым зняў балоневую куртку і павесіў на цвічок ля дзвярэй, ускінуў на яе кепку. Дастаў з кішэні штаноў невялічкую расчоску з частымі зубамі і прыгладзіў рэдкія пасівелыя валасы, што венчыкам абрамлялі галаву. Марыля заўважыла, што ўвесь ён быў напоўнены нейкім радасным святлом. І ў блакітных, глыбока пасаджаных вачах, і на твары блукала ўсмешка.

— Ці не жаніцца надумаў, стары пень? — раптам праціла яе здагадка. — Аж зіхаціш увесь.

— Угадала! — усклікнуў ён, відаць, радуючыся, што сястра пазбавіла ад нуднага тлумачэння, бо, шчыра кажучы, і не ведаў, як пачаць гаворку пра тую жаніцьбу.

— А скулу табе ў бок, — нязлосна пажадала Марыля. — Як малады быў, не жаніўся, а цяпер людзей смяшыць надумаў. Анютку вунь трэба было браць, як я сватала. А як жа яна хацела за цябе, колькі разоў сама гутарку заводзіла. Дык жа не — адвярнуўся. А яна, бедная, так і счарвіела на корані. Улетку пахавалі, — Марыля гаротна падціснула вусны, прыгадаўшы сваю сціплую працавітую суседку, што так і змарнела векавухай. — А каго бярэш? — пацікавілася.

— Ат, і сам добра не ведаю, — шчыра прызнаўся Мікадым. — Я на тым тыдні мёд у горадзе прадаваў, а яна купляць прыйшла. Разгаварыліся. Заўтра прыехаў на кірмаш — яна зноў падышла. Потым да сябе запрасіла на чай.

— Дык яна гарадская?

— Цяпер у горадзе жыве з дарослай дачкой, а так родам з вёскі. Працаваў, кажа, працавала, цяпер на пенсіі. І дачка прадавец. Добра жывуць. У кватэры ўсё ёсць. І сама, гм-м... маладая...

— Дык на чорта ты ёй, стары почарапак? — грубавата спытала Марыля. — Порткі твае мыць ды ў хаце прыбіраць? Карысць нейкую мае. Няйначай.

— Ты вось што, — як незалюбіў Мікадым, — калі маеш ахвоту, то пад'едзь у суботу, пасядзім, як людзі, бо яна заўтра пераедзе да мяне жыць. Сам перавязу. Гэта справа ўжо вырашана, і можаш дарэмна не біць язык аб зубы.

— Як хочаш, — раптам памякчэла сястра. — Табе жыць.

Мікадым перапачаваў, а назаўтра ранічкай накіраваўся на аўтобус.

Марыля падумала і на тую гулянку не паехала. Не па душы ёй была гэтая жаніцьба і перасіліць сябе, змірыцца з новай гаспадыняй у братавай хаце не магла. Адчувала, што

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны: рэдакцыі .........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 10 траўня 2000г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы: 64042 (індывідуальная) 63818 (ведамасная)
Наклад 8300 экз. Заказ № 1563.
© «Газета Слонімская» Спасылка на «ГС» абавязковая
Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

## АЎТАР ПОМНІКА Ў СЛОНІМЕ — АКІМ КУРАЧКІН

**Аўтарам помніка загінуўшым воінам і партызанам, які знаходзіцца на вуліцы Пушкіна ў Слоніме, з'яўляецца скульптар Акім Курачкін.**



Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Акім Курачкін нарадзіўся на Гомельшчыне. Героіка ваенных гадоў стала асноўнай тэмай яго творчасці. Подзвігу абаронцаў Брэсцкай крэпасці прысвечана скульптурная кампазіцыя "Да апошняга дыхання". Акім Курачкін з'яўляецца аўтарам мемарыяльнага комплексу "Калдычэўскі лагер смерці" пад Баранавічамі.



У 1956 годзе ў Слоніме быў устаноўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам і апушчаным у жалобе сцягам. Гэта таксама праца скульптара Акіма Курачкіна.

Дарэчы, у 1947 годзе гэты мастак намаляваў партрэт Героя Савецкага Саюза Ф. Сінічкіна, імем якога названа адна з вуліц Слоніма. Партрэт гэты захоўваецца ў Баранавіцкім краязнаўчым музеі. А ў 1960 годзе Акім Курачкін вылепіў з гіпсу партрэт свінаркі саўгаса "Слонімскі" Г. Ракуць. Ён знаходзіцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі ў Мінску.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# У СЛОНІМЕ ЗАКЛАДЗЕНЫ СКВЕР



**У пятніцу, 5 траўня, у Слоніме ў мікрараёне "Энка" адбылася закладка памятнага знака і сквера ў гонар чарговых угодкаў перамогі над нямецкім фашызмам у Вялікай Айчыннай вайне.**

На мітынгу, які прайшоў з гэтай нагоды, выступалі прадстаўнікі ўладаў, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны і воіны-інтэрнацыяналісты. У гэты ж дзень у раённым доме культуры прайшоў святочны канцэрт.

**Віталь ГІЛЬ**

## У асноўным — крадуць

**За першы квартал 2000-га года ў Зэльвенскім РАУС зарэгістравана 30 злачынстваў. Асноўным відам злачынства з'яўляюцца крадзяжы дзяржаўнай маёмасці.**

Як паведаміў намеснік начальніка Зэльвенскага РАУС маёр міліцыі Генадзь Бахорын, у апошні час расце колькасць крадзяжоў з вясковых магазінаў.

**Алесь САСНА**

## Святочны аўтапрабег

**Напярэдадні Дня Перамогі Мастоўскі райвыканкам разам з мясцовым БПСМам правёў аўтапрабег "Ад помніка да помніка".**

Мерапрыемства доўжылася адзін дзень. У склад удзельнікаў аўтапрабегу ўвайшлі супрацоўнікі райвыканкама, БПСМ, некалькі ветэранаў-афганцаў і адзін удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Яны наведалі абеліскі воінам, якія загінулі на Мастоўшчыне. У некаторых сельсаветах дзеля гэтага мерапрыемства былі арганізаваны сустрэчы з ветэранамі і праведзены мітынгі.

**Антон МАКЕЙ**

## І такое бывае

**Мастоўскі райвыканкам вымушаны канстатаваць, што з пачатку гэтага года ва ўсіх калгасах і саўгасах раёна за выключэннем "Світання", "Чырвонай зоркі", "Дубна" і "Чырвонага партызана" знізілася сярэднесутачная прывага буйной рагатай жывёлы.**

Тым часа план продажу мяса дзяржаве па раёне выканаы на 140%.

## Даходы малыя, выдаткі вялікія

**За першы квартал 2000 года даходная частка бюджэту Мастоўскага раёна выканана толькі на 15,2%, а расходная — на 19,2%.**

За гэты перыяд у бюджэт паступіла 295 млн. руб., а прафінансавана расходаў на суму 610 млн. руб. Гэтыя грошы ў першую чаргу накіроўваліся на выплату заробку служачым, на медыцыну, а таксама на аплату спажытых бюджэтнай сферай энергарэсурсаў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Дзятлава выбрана не выпадкова

**У Дзятлаве адбыўся абласны семінар работнікаў аддзялення фонду міру.**

Гэта стала магчымым, дзякуючы таму, што ў райцэнтры добра працуе мясцовае аддзяленне, якое ўзначальвае Эдуард Казіміравіч Кулеш. Супрацоўнікі фонду вышукваюць сродкі для дапамогі інвалідам, хворым дзецям, састарэлым людзям.

Удзельнікі семінару абмяняліся вопытам працы, зрабілі азнаямляльную экскурсію ў санаторый "Радон" і дзіцячы аздараўленчы цэнтр "Баравічок".

## Пісьменніца ў гасцях у школьнікаў

**Нядаўна ў Дзятлаве пабывала знакамітая беларуская пісьменніца Вольга Іпатава.**

У сваім выступленні перад школьнікамі яна паведаміла, што некаторы час вучылася ў Таркачоўскай сярэдняй школе, што на Дзятлаўшчыне, і менавіта там адбыўся яе паэтычны дэбют.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

скрыжаваннях

# ХУТАРЫ

робіць не вельмі па-людску, чэрства неяк, што Мікадым можа і пакрыўдзіцца, але не магла і ўсё тут.

Пазнаёміцца з братавой ёй давялося мо праз паўгода, як Мікадым цяжка захварэў. Стрыечная сястра, што жыла ў той жа вёсцы, выпадкова сказала ёй аб гэтым у горадзе.

— Дык ён у бальніцы ці дома? — спытала Марыля.

— У якой табе бальніцы, галубка, дома чэзне. Сам жа не даедзе, бо аслабеў вельмі, а яна і не думае везці. "Пройдзе, кажа, само, калі суджана выжыць, а як Бог не дасць большага веку, то ніякія бальніцы не памогуць". Зёлкамі поіць яго, шаптуху нейкую з горада прывозіла.

— А каб жа на яе пярун! — ускіпела Марыля. — Вось ужо я да яе дабяруся, я ёй пашапчу!

Адразу з горада яна паехала да брата. Ён ляжаў на ложку, накрыты нейкай дзяругай, натужна кашляў. Шчокі ўваліліся, губы пасмяглі. Было відаць, што паднялася тэмпература.

Не паспелі яны перакінуцца словам-другім, як у хату з вядром вады ўплыла мажная чырвонашчокая кабета. Апранута яна была ў Мікадымаву ватоўку, а на галаве нейкім турэцкім цюрбаном быў завязаны дарагі шалік. Здаецца, гэты цюрбан і перапоўніў чашу Марылінага цярпення.

— Ты ж, змяюка падкалодная, што брата на той свет загнаць хочаш? Чаму да дактароў не вязеш? Бачыш, як змарнеў, адны косці засталіся.

— А вам якая справа? — узнялася тая на дыбы. — Хто вы такая?

— Я табе зараз пакажу і справа, і злева! Бяжы ў вёску, у каго там тэлефон ёсць, і выклікай доктара. І каб мне на адной назе, а то растаўку галаву гэтым гаршком, — Марыля падалася да прыпечку, дзе стаяў посуд. Братавую як ветрам выдзьмула за парог.

Праз якую гадзіну з'явілася "хуткая дапамога". Мікадыма адразу ж забралі ў бальніцу, бо прызналі задаўненае запаленне лёгкіх.

Ачуньваў ён доўга, але неяк акрыяў, акрэп. Толькі ўжо канчаткова пакінула яго былая сіла і душу апанавала нейкая спустошанасць, абыякавасць. Ён часцей пачаў прыязджаць да Марылі, нібы ў яе хаце знаходзіў паратунак ад сваіх гаротных дум.

— Падбухторвае мяне, каб прадаў хату, сад, а сам перабраўся да іх у горад. Маўляў, за грошы, вырučаныя за хату, купім машыну. Дачка яе надта ж машыну хоча.

— А трасцу ў бок яна не хоча? — не стрымалася Марыля. — Не згаджайся! У сваёй хаце ты гаспадар, а там збяёдаюць без пары і, падумаўшы, дадала. — От жа дурны ты быў, ажаніўся з гэтай выдрай. Не паслухаў мяне.

— Ат, што цяпер пра гэта, — бездапаможна махнуў ён рукой.

Увесь апошні час Марыля жыла ў трывозе. Нібы чула душа, што з братам здарыцца нешта нядобрае, нібы падказвала. І вось цяпер гэта вестка: пайшоў па грыбы і не вярнуўся...

— Што, дамаглася свайго? — пераступіўшы парог хаты, накінулася яна на братавую, якая сядзела на крэсле ля акна і ўзіралася ў нейкую, адной ёй вядомую, кропку. — Зжыла са свету Мікадыма.

Братавая закрыла твар пухлымі далонямі і ўсхліпнула:

— Сам ён прапаў, я тут ні пры чым. Пайшоў па зеляніцы і як у ваду кануў. Мы ўжо і шукалі, і ў міліцыю заяўлялі. Нідзе ніякіх слядоў.

— Я знайду сляды, — паабяцала Марыля. — Касцьмі лягу, а знайду. І міліцыі той падкажу, што трэба рабіць.

Братавая раптам падхапілася на ногі і тыгрыцай кінулася да дзвярэй, адчыніла іх насцеж:

— Вон з хаты! Што ты тут сабралася віжаваць? Прыехала, то пасядзі, пагавары, як чалавек.

— Пагаворыць з табой у другім месцы, — сказала Марыля, але з лавы не зварухнулася. Раптам гнеў уступіў месца жаласці і са старэчых вачэй бобам пакаціліся слёзы. Убачыўшы гэта, братавая зачыніла дзверы і пачала гаварыць больш памяркоўна.

— Я вось думаю сорак дзён справіць, як прыйдзе час, каб усё было па-людску, бо не знойдзем мы яго, сэрца маё чуе, што не знойдзем.

Нічога не кажучы, Марыля падхапіла з падлогі сваю старэнькую сумку і, нягледзячы на тое, што на двары ўжо згусціўся змрок, пашыбавала да шашы. Больш тут заставацца не магла ні хвіліны.

Назаўтра ранічкай яна наведалася ў міліцыю, папрасілася да "самага большага начальніка", маліла ўзнавіць пошукі, даводзіла, што брата зжыла са свету новая жонка. Яе спачатку слухалі, а потым адмахнуліся, як ад надакучлівай мухі: у міліцыі хапала і іншых спраў. А ў Марылі з гэтага часу быў толькі адзін клопат — знайсці Мікадыма і пахаваць па-людску. Яна прыязджала на хутар, хавалася ў алешніку за плотам, пільнавала, калі новая сваячка адлучыцца ў краму ці паедзе ў горад, а потым ішла на сядзібу і аглядала там усё да маленькай кропінкі, кожны сантыметр абмацвала сваім уважлівым позіркам. Адзін раз заначавала ў вёсцы, бо зусім выпадкова даведалася, што заўтра раніцай братавая на два дні паедзе ў горад да дачкі.

Дачакаўшыся таго ад'езду, Марыля пайшла на сядзібу. На гэты раз яна вырашыла дэталёва агледзець паветку, дзе Мікадым складваў сена. Каровы цяпер ён не трымаў, але аселіцу і абмежкі выкошваў акуратна, сена хаваў амаль да вясны, а потым прадаваў. Напрадвесні яно было ў большай цане.

Пераступіўшы парог, кабета адразу заўважыла, што сячкарня стаіць не на тым месцы, дзе заўсёды.

— Хто ж яе сюды неравалок, ды і навошта? — пранеслася ў галаве думка. Адсунула граблямі кучку мурагу, што быў нацярушаны на ток. Нічога падазронага не знайшла. І толькі калі схілілася да самай падрубы, заўважыла, што там зямля між каменняў нейкая ўзрыхленая, нібы яе патачыў шашаль.

— Капалі нядаўна! Трэба і мне капаць. Але ці дам рады? Сіла ўжо не тая...

Яна падумала, што можа варта з'ездзіць у міліцыю, але, прыгадаўшы свае безвыніковыя візіты туды, адхіліла гэту думку.

Капала доўга, абліваючыся пота, адпачываючы ледзь не праз кожныя дзесяць хвілін працы. Паглыблялася і паглыблялася ў зямлю. Нейкая сіла падказвала ёй, што робіць правільна, што трэба дабівацца мэты, калі нават прыйдзецца тут памерці. І, нарэшце, можа на глыбіні якога метра, пад лапатай зашапацела кляёнка. Ладнаваты кавалак, можа метра паўтара. І ўсё. Больш нічога не знайшла, як ні старался. Але і гэта быў поспех. Адкуль тут, на такой глыбіні, можа з'явіцца кляёнка, калі паветка ставілася яшчэ іхнім бацькам. Тады людзі ні аб якіх кляёнках яшчэ і паняцця не мелі. Значыць, яна трапіла сюды нядаўна. І не выпадкова. Хоць зямля і была старанна ўтрамбавана.

Вось з гэтым рэчавым доказам Марыля і памчалася ў міліцыю. Выслухаўшы яе, следчы выразна пакруціў пальцам ля віска:

— Бабуля, табе пара ў псіхіятрычку, — без лішняй далікатнасці канстатаваў ён. — Дасі ты нам нарэшце працаваць спакойна ці не?

Кабета паехала ў абласную міліцыю і там паказала кляёнку. Справай зацікавіліся, далі ёй ход. Экспертыза ўстанавіла, што ў гэту кляёнку быў закручаны труп. Толькі яго з паветкі забралі і перанеслі ў іншае месца.

Братавая, прыпёртая да сцяны фактамі, упарцілася нядоўга. На пытанне, дзе цяпер знаходзіцца загублены ёю чалавек, расказала:

— Спачатку закапала яго ў паветцы, а пасля спалохалася, што знойдуць. Перанесла і засыпала ў канаве за хутарам. Магу паказаць.

Праз некалькі дзён на вясковых могілках хавалі тое, што засталося ад Мікадыма. Святар адслужыў паніхіду, на магіле паставілі крыж.

А неўзабаве ваколіцу абляцела вестка, што ў следчым ізалятары раптоўна памерла забойца: сэрца не вытрымала...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Газета Слонімская
11 — 17 траўня, 2000г. № 20 (153)

# СЕНСАЦИОННОЕ СООБЩЕНИЕ

**В Минском городском суде завершились прения сторон по делу экс-премьера Беларуси Михаила Чигиря.**

Защитники Михаила Чигиря в своих выступлениях доказывали его невиновность в совершении ряда должностных преступлений — халатности, превышении служебных или должностных полномочий. Борис Гюнтер напомнил, что уголовное дело в отношении М.Чигиря было возбуждено сразу же после решения экс-премьера участвовать в выборах президента Республики Беларусь, объявленных Верховным Советом Беларуси 13-го созыва. Арест Михаила Чигиря, возможно, является составной частью широкого плана по борьбе с оппозицией. В этом же ряду — исчезновение Юрия Захаренко и Виктора Гончара, смерть Геннадия Карпенко. Общественный защитник напомнил, что к делу приобщена докладная записка секретаря Совета безопасности Виктора Шеймана с резолюцией А.Лукашенко. В этом документе содержится квалификация действий бывшего премьер-министра, данная секретарем Совета безопасности, которой фактически и следовало затем предварительное следствие. По мнению Гарри Погоняйло, эти документы появились в материалах следствия не случайно; следователи таким способом пытались продемонстрировать, что дело является "заказным" и политически мотивированным.



*Михаил Чигирь*

Защитники проанализировали буквально каждый пункт по всем предъявленным обвинениям.

Например, Г.Погоняйло напомнил, что все предъявленные обвинения уже неоднократно проверялись различными контролирующими органами — при назначении М.Чигиря премьер-министром, при его выходе в отставку. Состава уголовного преступления в его действиях обнаружено не было. Гарри Погоняйло считает (и показывал на примерах), что следствие совершило не просто отдельные ошибки при расследовании дела Чигиря, а проводило его целенаправленную фальсификацию. По предъявленным эпизодам, связанным с выдачей кредитов, финансированием строительства нового офиса "Белагропромбанка", представлении отсрочки по таможенным платежам фирме "Пиаск", в результате чего был нанесен материальный ущерб, отсутствует причинно-следственная связь между решениями Михаила Чигиря и тем, что на каких-то этапах исполнителями этих решений были допущены злоупотребления. Логично, если бы следствие занялось этими виновниками. Однако следователей интересовал исключительно Михаил Чигирь. Так произошло, например, по эпизоду с выдачей кредита фирме "БелОСТ" в размере 900 тысяч долларов США на закупку автомобилей. Машины были закуплены, однако фирма столкнулась со сложностями в их реализации в связи с введением таможенных пошлин в России. Часть автомобилей была продана гродненской фирме "ЮнисБел". Однако фирма не рассчиталась, а фактически присвоила автомобили, поставив "БелОСТ" на грань разорения. И только в суде, а не во время следствия, были выявлены факты, что гродненская фирма создана под покровительством силовых структур города.

Также следствие не изучило деятельность фирмы "Каруна энтерпрайзис", которая являлась дочерним предприятием канадской строительной фирмы, возводившей офис "Белагропромбанка". По предположению Гарри Погоняйло, именно в помещении этой фирмы находился предвыборный штаб кандидата в президенты Александра Лукашенко. В своем выступлении Гарри Погоняйло выдвинул сенсационное предположение, что через эту фирму проводилось финансирование предвыборной кампании Александра Лукашенко. В том числе финансирование велось и канадским бизнесменом, главой строительной компании, взявшейся возводить офис "Белагропромбанка" — в надежде на льготы и преимущества в случае победы на выборах претендента на президентский пост. Адвокат не исключает, что часть средств, которые по документам были истрачены на подготовку строительной площадки, в реальности пошли на предвыборные цели кандидата в президенты. В тоже время работы по строительству офиса не прекращались, хотя необходимость контракта с канадской фирмой уже подвергалась сомнению (величина истраченной суммы была около 2 миллионов долларов США) и заставила защиту усомниться, что вся эта значительная сумма была истрачена на проведение дешевых земляных работ. Впоследствии фирма "Каруна энтерпрайзис" купила несколько квартир, которые были переданы различным лицам, в том числе из бывшего и нынешнего окружения А.Лукашенко. По словам Гарри Погоняйло, на этот эпизод следствие внимания не обратило. Хотя здесь налицо признаки коррупции в высших эшелонах власти.

Защитники призвали полностью оправдать Михаила Чигиря по всем предъявленным обвинениям, так как в его действиях нет состава преступления. Вместе с тем, они выразили сомнение в том, что это произойдет, так как суд в Беларуси перестал быть независимым. Они напомнили об ответственности, которую неизбежно понесут как заказчики, так и исполнители этого фальсифицированного политического дела, а фактически расправы над оппонентом режима в случае несправедливого обвинительного приговора.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

# ПО ПОЛИТИЧЕСКИМ МОТИВАМ

**Расследование по делу исчезновения Юрия Захаренко продолжается. Однако у следственных органов нет никакой новой информации о его судьбе.**

Об этом сообщили участники пресс-конференции, представляя в Минске сборник "Где Юрий Захаренко?", выпущенный общественным объединением "Правовая помощь населению".

Участники пресс-конференции уверены, что исчезновение Ю.Захаренко вызвано политическими мотивами, поскольку он представлял определенную опасность для режима, как человек, способный сплотить сотрудников силовых структур вокруг себя. По словам полковника запаса Владимира Бородача, работа по формированию Белорусского союза офицеров перед исчезновением Юрия Захаренко шла быстрыми темпами.

Ольга Захаренко напомнила, что ее мужа неоднократно предупреждали о готовящихся провокациях. За ним было установлено наружное наблюдение, которое за день до исчезновения было снято.

Члены общественной комиссии в первые дни провели опрос жильцов микрорайона, осмотр территории и различных сооружений, расположенных там. Были найдены люди, видевшие момент захвата Ю.Захаренко и даже описавшие внешность производивших захват людей. Причем в описаниях различных свидетелей приметы этих людей совпадали. Однако Владимир Арестов, бывший сотрудник милиции, считает, что подобная тактика была неверной. Она могла "сработать", если на Ю.Захаренко действительно напали уголовники. Но по мере изучения эта версия отпала. Члены общественной комиссии считают, что похищение Ю.Захаренко осуществлено на высоком профессиональном уровне. И не исключают, что исполнителей уже нет в живых. Чтобы выяснить, нет ли в происшедшем криминального следа, каких-либо долгов (о чем в одном из своих выступлений говорил А.Лукашенко), были предприняты попытки по конфиденциальным каналам установить, не имел ли Юрий Захаренко отношений с криминальным миром и даже предлагалось возвратить возможный долг. По словам В.Арестова, в криминальной среде многие вещи "документируются". Однако у Ю.Захаренко не было никаких отношений с этой средой и, понятно, предложение об "обмене" не получило даже ответа. В поисках экс-министра внутренних дел большую негласную помощь оказывали сотрудники милиции, у которых Ю.Захаренко пользовался большим авторитетом. И именно их усилиями удалось добыть большинство ценной информации, которой располагает общественная комиссия. В то же время уголовное дело по исчезновению Ю.Захаренко прокуратура Минска возбудила только через полгода после исчезновения политика. В личной беседе с дочерью экс-министра внутренних дел Еленой, следователь говорила, что это дело носит политический характер.

По словам членов общественной комиссии, их работа проходила в условиях противодействия власти и отсутствия помощи и согласованных действий со стороны оппозиции.

Родственники Юрия Захаренко обращались к услугам экстрасенсов, которые сообщили, что Юрий Захаренко жив и насильственно удерживается в закрытом помещении.

**БелаПАН**

## Так кто нам угрожает?

**"Какие страны представляют собой, по вашему мнению, угрозу для Беларуси?" — с таким вопросом в апреле текущего года ученые Независимого института социально-экономических и политических исследований обратились к жителям республики в ходе общенационального социологического опроса.**

Практически половина (46 процентов) из 1.495 респондентов ответили, что "никакие". Каждый третий — 34 процента — указал на страны НАТО. Заметим, что в ноябре прошлого года страны НАТО отметили 42 процента опрошенных. Каждый пятый респондент (20 процентов) считает, что сегодня угрозу для Беларуси представляют США. В ноябре прошлого года подобного мнения придерживалось 26 процентов опрошенных.

6 процентов ответивших на предложенный вопрос анкеты угрозу для Беларуси видят со стороны России, 4 процента — со стороны Польши, 3 процента — со стороны Китая. И по 2 процента респондентов считают, что угрозу для Беларуси представляют Литва, Латвия, Германия и Украина.

**Леонид ИГНАТЬЕВ**

## Независимые СМИ под пристальным взором властей

**Президент Белорусской ассоциации журналистов (БАЖ) Жанна Литвина считает, что в ближайшее время отношения между властями Беларуси и независимыми СМИ обострятся.**

По ее словам, это связано, в первую очередь, с намеченными на осень 2000 года выборами в парламент и желанием власти удержать под своим контролем информационное пространство.

Независимая пресса остается, по словам Жанны Литвиной, последним инструментом контроля деятельности власти. И пусть она не оказывает ключевого влияния на процессы в обществе, но остается живым источником информации, не подвергающимся цензуре и фальсификации. Президент БАЖ напомнила, что перед референдумом 1995 года был закрыт 8-й независимый канал телевидения, перед референдумом 1996 года была в течение 24 часов закрыта независимая радиостанция "101,2". Теперь же в кулуарах власти подготовлены поправки к Закону "О печати", с помощью которых, через несколько месяцев, станет гораздо проще расправляться с негосударственной прессой. Редакции СМИ приравнены к субъектам хозяйствования и подпадают под действие декрета президента № 11 от 1999 года "Об упорядочивании государственной регистрации и ликвидации (прекращения деятельности) субъектов хозяйствования". В результате газету можно будет закрыть без судебных разбирательств.

Власти продолжают активно использовать и привычные рычаги давления на независимые СМИ — вынесение предупреждений, судебные иски, задержание и запугивание журналистов, экономические санкции — независимые и государственные СМИ имеют исключительно неравные экономические условия своей деятельности. Используются различные законодательно-бюрократические ухищрения. Например, с 1 апреля 2000 года прекращена регистрация СМИ и редакций как юридических лиц, а это требует дополнительной регистрации в исполкомах.

"Для власти недопустимо, если люди на основе свободной информации начнут размышлять самостоятельно", — сказала Жанна Литвина.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

## ФАШИСТСКИЕ АКЦИИ В ГРОДНО

**Правоохранительные органы ведут следствие по факту недавнего ночного нападения на штаб-квартиру гродненской городской организации БНФ "Адраджэньне", когда злоумышленники разбили окна и пытались сорвать вывеску.**

Трое хулиганов были задержаны работниками милиции. Как выяснилось, двое 18-летних юношей и ученица 11-го класса являются членами российской праворадикальной организации РНЕ. Сейчас они дают показания. Возможно, что по факту нападения на штаб-квартиру БНФ будет возбуждено уголовное дело.

Как сообщил председатель гродненской городской организации БНФ "Адраджэньне" Сергей Мальчик, в результате ночного нападения хулиганов камнями повреждено имущество, в частности, разбит телефон-факс.

**Антон ЛАБОВИЧ**

## Пикет журналистов

**2 мая на площади Ленина в Гродно, возле здания горисполкома, прошел несанкционированный пикет пяти журналистов независимой газеты "Репортер" под руководством главного редактора Анджея Писальника.**

Они протестовали против действий местных властей, которые отказываются регистрировать юридический адрес газеты.

Обвязавшись веревками и заклеив себе рты, журналисты стали возле памятника Ленину. Они были одеты в майки с надписями "Власть меня не любит. За что?", "Каждому мэру — по Конституции!", "Хочу дружить с мэром, а он со мной — нет".

Через 40 минут после начала акции сотрудники милиции задержали пикетчиков и препроводили в Ленинский РОВД. Менее чем через три часа, после беседы с начальником РОВД Станиславом Васильевским, журналисты были отпущены без составления протокола.

Коллектив "Репортера" намерен повторно обжаловать действия горисполкома и его председателя Анатолия Пашкевича в областной исполнительном комитете. Первая жалоба была оставлена без удовлетворения.

**Дмитрий ВЛАСОВ**




# ЛІК ЗРАЎНЯЛІ НА АПОШНІХ МІНУТАХ

## "Камунальнік" (Слонім) — "Днепр-Трансмаш" (Магілёў) — 1:1

**Слонім. 7 траўня. Стадыён "Дынама". 2000 гледачоў.**
**Суддзя К. Дайлід (Брэст).**
**Камунальнік: Ясковіч, Чэпкі, Скатарэнка (Карасёў, 46), А. Дзегіль, Камкоў (к), Астапчык, Дым, Савань (Савіцкі, 55), В. Дзегіль (Белезяка, 67), Вярбіцкі, Татарашвілі.**
**Галы: Ліхтаровіч (9), Камкоў (87).**

З самага пачатку гульні слонімцы пайшлі наперад вялікімі сіламі. Аднак футбалістам "Камунальніка" не хапала дакладнасці ў перадачах, яны часта гублялі мяч. Гэтым і карысталіся госці, якія праводзілі імклівыя контратакі. Адна з іх закончылася голам — перадачу злева магутным ударам пад перакладзіну замкнуў паўабаронца гасцей Дзмітрый Ліхтаровіч.


Фота Віталя ГІЛЯ

У першым тайме "Днепр-Трансмаш" яшчэ неаднойчы мог павялічыць лік на сваю карысць. Аднак у адных выпадках нападаючыя гасцей не рэалізоўвалі стопрацэнтныя моманты, у іншых — добра гуляў Андрэй Ясковіч і нашы абаронцы (асабліва Мікалай Дым). У слонімцаў некалькі добрых момантаў меў Георгій Татарашвілі. У канцы першага тайма ён зблізку проста расстрэльваў вароты "Дняпра-Трансмаша", але трапіў у варатара...



У другой палове матча тэмп гульні знізіўся, вострых момантаў футбалісты стваралі значна менш. Паранейшаму ў слонімцаў было шмат недакладнасцей у перадачах, удары, як правіла, ішлі міма варот. Здавалася, што галоў ужо больш не будзе. Напэўна, у гэта паверылі і госці, якія пачалі гуляць на ўтрыманне ліку. Аднак на апошніх мінутах гульні "Камунальнік" зраўняў лік. Спачатку Мікалай Дым са штрафнога ўдару дакладна б'е па варотах гасцей, але варатар адбівае мяч, які трапляе да Мікалая Камкова. Капітан "Камунальніка" наносіць магутны удар з-за межаў штрафной пляцоўкі — гол!

Нічыя незадавольвала магілёўцаў, а слонімцы паверылі, што могуць яшчэ забіваць. Таму апошнія мінуты матча прайшлі ў вострых атаках. Магчыма, каб да фінальнага свістка заставалася больш часу, лік мог бы яшчэ змяніцца...

Наступную гульню слонімскі "Камунальнік" праводзіць у чацвер, 11 траўня, у Салігорску з мясцовым "Шахцёрам", які сёлета ўпэўнена стартаваў у чэмпіянаце. 15 траўня, у панядзелак, "Камунальнік" на сваім полі будзе прымаць рэчыцкі "Ведрыч-97".

**Сяргей ЁРШ**

## Гродзенцы выбылі з барацьбы за Кубак Беларусі

**3 траўня адбыліся чвэрцьфінальныя матчы розыгрышу Кубка Беларусі па футболу 1999/2000 гадоў.**

Мазырская "Славія" разграміла ў гасцях брэсцкае "Дынама" — 6:0, бабруйская "Белшына" перайграла на сваім полі віцебскі "Лакаматыў-96" — 2:1, футбалісты "Гомеля" перамаглі дома ў дадатковы час "Ліду" — 3:0, а мінскае "Тарпеда-МАЗ" у родных сценах выйграла па пенальці ў гродзенскага клуба "Нёман-Белкард" — 4:2 (асноўны час — 0:0).

4 траўня ў Беларускай федэрацыі футбола прайшла жараб'ёўка паўфінальных параў розыгрышу Кубка. 19 траўня ў 1/2 фінала сустрэнуцца "Тарпеда-МАЗ" і "Белшына", "Славія" і "Гомель". Фінал пройдзе ў Мінску 28 траўня.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

**Астатнія вынікі матчаў 4-га тура:**

| | |
|---|---|
| Ліда — Нёман-Белкард | — 0:0 |
| БАТЭ — Ведрыч-97 | — 2:1 (Кутузаў, 80, Глеб, 90; Рудкоўскі, 82) |
| Лакаматыў-96 — Шахцёр | — 0:1 (Каўрыга, 35 — у свае вароты) |
| Славія — Белшына | — 3:2 (Стрыпейкіс, 18, Дзенісюк, 38, Мацвейчык, 84; Балтрушэвіч, 21 — з пенальці, 88) |
| Гомель — Тарпеда-МАЗ | — 1:0 (Разумаў, 85) |
| Нафтан-Дэвон — Тарпеда-Кадзіна | — 1:0 (Самушчык, 80) |
| Дынама (Мн.) — Дынама (Бр.) | — 4:0 (Вяжэвіч, 12, 28, 40, Кавальчук, 38) |

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**
пасля 4-га тура

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Дынама (Мінск) | 4 | 3 | 1 | 0 | 12:2 | 10 |
| 2. | Славія (Мазыр) | 4 | 3 | 1 | 0 | 10:5 | 10 |
| 3. | Гомель | 4 | 3 | 0 | 1 | 12:7 | 9 |
| 4. | Нафтан-Дэвон (Наваполацк) | 4 | 2 | 2 | 0 | 5:3 | 8 |
| 5. | Белшына (Бабруйск) | 4 | 2 | 1 | 1 | 10:4 | 7 |
| 6. | БАТЭ (Барысаў) | 4 | 2 | 1 | 1 | 7:6 | 7 |
| 7. | Шахцёр (Салігорск) | 4 | 2 | 1 | 1 | 4:4 | 7 |
| 8. | Нёман-Белкард (Гродна) | 4 | 1 | 2 | 1 | 4:2 | 5 |
| 9. | Ведрыч (Рэчыца) | 4 | 1 | 2 | 1 | 3:3 | 5 |
| 10. | Тарпеда-МАЗ (Мінск) | 4 | 0 | 3 | 1 | 1:2 | 3 |
| 11. | Ліда | 4 | 0 | 3 | 1 | 1:5 | 3 |
| 12. | Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) | 4 | 1 | 0 | 3 | 5:12 | 3 |
| 13. | Днепр-Трансмаш (Магілёў) | 3 | 0 | 2 | 1 | 3:5 | 2 |
| 14. | Камунальнік (Слонім) | 4 | 0 | 2 | 2 | 1:6 | 2 |
| 15. | Лакаматыў-96 (Віцебск) | 3 | 0 | 1 | 2 | 1:5 | 1 |
| 16. | Дынама (Брэст) | 4 | 0 | 0 | 4 | 5:13 | 0 |

першая ліга

# "НЁМАН" СУПРАЦЬСТАІЦЬ ВЕТРУ І ПЕРАМАГАЕ

**У чарговым матчы чэмпіянату Беларусі мастоўскі "Нёман" сустракаўся ў гасцях з камандай "Вейна-Днепр" з Магілёўскага раёна.**

Не гледзячы на шматгадзінны пераезд амаль праз усю Беларусь, футбалісты "Нёмана" стомленымі не выглядалі і гульню распачалі з атакаў. Гаспадары таксама не адседжваліся ў абароне. Таму ў першым тайме мастаўчанам давялося змагацца і з хуткімі нападаючымі "Вейна-Дняпра", і з моцным ветрам, які ўнёс карэктывы ў ход матча.

Стартавы склад "Нёмана" амаль не адрозніваўся ад складу каманды ў мінулым матчы. Толькі ў лініі паўабароны з'явіўся Віталь Мацюк, а ў нападзенні гуляў Уладзімір Кухлей. Першая палова матча так і завяршылася нулявой нічыёй.

Пасля перапынку памочнікам мастаўчан стаў... вецер. Атакі "Нёмана" станавіліся ўсё больш настойлівымі і небяспечнымі. У гульню мастаўчан добра ўпісаўся гродзенскі легіянер Грацкевіч. Гэта быў яго першы выхад на поле ў складзе "Нёмана". За 10 мінут да заканчэння гульні менавіта ўдар Грацкевіча дасягнуў мэты — 1:0. Дабіцца поспеху маглі таксама Мацюк і Пятроў, але спартыўнае шчасце ўжо было на баку "Вейна-Дняпра", і лік не змяніўся.

"Нёман" дабіўся чарговай перамогі і набраў вельмі неабходныя тры ачкі. Відавочна, што без Алега Вярбіцкага мастаўчане забіваюць вельмі мала (у трох гульнях забіта толькі два мячы). А вось абарона "Нёмана" радуе — сёлета каманда не прапусціла яшчэ ніводнага мяча.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | **Лунінец** | 3 | 2 | 1 | 0 | 6:0 | 7 |
| 2. | **Орша** | 3 | 2 | 1 | 0 | 4:2 | 7 |
| 3. | **Нёман** (Масты) | 3 | 2 | 1 | 0 | 2:0 | 7 |
| 4. | **Трактар** (Мінск) | 3 | 2 | 0 | 1 | 5:1 | 6 |
| 5. | **Граніт** (Мікашэвічы) | 3 | 2 | 0 | 1 | 3:2 | 6 |
| 6. | **Маладзечна** | 3 | 1 | 2 | 0 | 3:0 | 5 |
| 7. | **Керамік** (Бяроза) | 3 | 1 | 2 | 0 | 5:3 | 5 |
| 8. | **Тарпеда** (Жодзіна) | 3 | 1 | 2 | 0 | 2:1 | 5 |
| 9. | **Свіслач-Кроўля** (Асіповічы) | 3 | 1 | 1 | 1 | 4:3 | 4 |
| 10. | **Зорка-ВА-БДУ** (Мінск) | 3 | 1 | 0 | 2 | 5:4 | 3 |
| 11. | **Хімік** (Светлагорск) | 3 | 0 | 3 | 0 | 2:2 | 3 |
| 12. | **Рагачоў** | 3 | 0 | 2 | 1 | 1:4 | 2 |
| 13. | **ЗЛіН** (Гомель) | 3 | 0 | 1 | 2 | 1:3 | 1 |
| 14. | **Вейна-Днепр** (Магілёўскі р-н) | 3 | 0 | 1 | 2 | 2:5 | 1 |
| 15. | **Дынама-Юні** (Мінск) | 3 | 0 | 1 | 2 | 0:5 | 1 |
| 16. | **Палессе** (Мазырскі раён) | 3 | 0 | 0 | 3 | 0:10 | 0 |

**Вынікі матчаў 3-га тура:**

| | |
|---|---|
| Свіслач-Кроўля — Тарпеда | — 1:2 |
| Маладзечна — Дынама-Юні | — 3:0 |
| Трактар — Рагачоў | — 3:0 |
| Палессе — Лунінец | — 0:5 |
| Орша — Зорка-ВА-БДУ | — 2:1 |
| ЗЛіН — Граніт | — 0:1 |
| Хімік — Керамік | — 1:1 |

гандбол

**На мінулым тыдні гандбалісткі "Мясакамбіната-Універсітэта" (Слонім-Гродна) правялі ў Слоніме дзве гульні з мінскім "Аркатронам".**

У першай гульні гаспадары пляцоўкі перамаглі з розніцай у два мячы, а ў другой прайгралі "Аркатрону" адзін мяч.

**Віталь ГІЛЬ (фота)**

